[61] Гл.: РГИА. Ф. 823. Оп. 2. Д. 3177.
[62] Гл.: РГИА. Ф. 823. Оп. 2. Д. 3353.
[63] Гл.: РГИА. Ф. 824. Оп. 2. Д. 232.
[64] Гл.: РГИА. Ф. 824. Оп. 2. Д. 369.
[65] Гл.: Янковский П. Протоиерей Михаил Бобровский // Литовские епархиальные ведомости. 1864. № 1. С. 11–20 ; № 2. С. 51–66.
[66] Гл.: Иосиф (Семашко). Записки Иосифа, митрополита Литовского, изданные Императорской Академией наук по завещанию автора : в 3 т. СПб., 1883. Т. 2. С. 73.
[67] Гл.: Василий (Лужинский). Записки Василия Лужинского, архиепископа Полоцкого. Казань, 1885.
[68] Гл.: Антоний (Зубко). О греко-униатской церкви в Западном крае России. Воспоминания // Пятидесятилетие (1839–1889) воссоединения с православной церковью западнорусских униатов. СПб., 1889. С. 31–76.
[69] Гл.: Письма М. Бобровского к И. Добровскому // Францев В. А. Польское славяноведение конца XVIII и первой четверти XIX ст. Прага Чешская, 1906. С. XLVII–LIII ; Письма М. Бобровского к кн. А. Чарторыйскому // Там же. С. LIII–LXIV ; Письма М. Бобровского к И. Лелевелю // Там же. С. LXXVI–LXXXVIII ; Письмо профессора М. К. Бобровского к И. М. Даниловичу. Вильна, 16 февр. 1833 г. // Бобровский П. О. К биографии М. К. Бобровского. СПб., 1890. С. 43–46 ; Письмо Михаила Бобровского к П. Кеппену. Вильна, сент. 1826 г. // Там же. С. 18–20 ; ПФА РАН. Ф. 108. Оп. 2. Д. 5.
[70] Гл.: Месяцеслов с росписью чиновных особ или общий штат Российской империи на лето от Рождества Христова 1821 : в 2 ч. СПб., 1821. Ч. 1.
[71] Гл.: Posiedzenie naukowe cesarskiego wileńskiego uniwersytetu d. 15 grud. r. 1820 // Dziennik Wileński. 1821. T. 1. S. 231–232.
[72] Гл.: Хронологическая роспись первопечатным словенским книгам // Библиогр. листы. 1825. № 1. С. 9–12 ; № 6. С. 77–84 ; № 11. С. 149–156 ; № 16. С. 221–228 ; № 21. С. 293–300.

Паступіў у рэдакцыю 17.09.2014.

***Таццяна Сяргееўна Пустаход*** – аспірантка кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу. Навуковы кіраўнік – кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу В. А. Цяплова.

*УДК 323.31(476)(043.3)+947.6«1861/1914»*

*В. А. КАХНОВІЧ*

# ДАБРАЧЫННАСЦЬ У ПАЎСЯДЗЁННАСЦІ БУЙНЫХ ЗЕМЛЕЎЛАСНІКАЎ (ДА І ПАСЛЯ 1861 г.): НЕКАЛЬКІ ПРЫКЛАДАЎ З БЕЛАРУСКАГА ПАЛЕССЯ XIX ст.

Представлены изменения в практике вотчинного патернализма в повседневности отдельных крупных имений (Радзивиллы, Горваты, Паскевичи). Рассмотрены механизмы социальных взаимоотношений между землевладельцами и крестьянами через призму христианских ценностей и благотворительности. Выявлено негативное воздействие государственного принуждения, а также постепенная деградация патерналистских отношений, происходивших под влиянием развития капиталистических форм хозяйствования и волн модернизации.

***Ключевые слова:*** вотчинный патернализм; благотворительность; модернизация; социальные отношения; крестьяне; помещики; крестьянская реформа; социальные конфликты; исторические источники.

This article has summarized the changes in the practice of the patrimonial paternalism in everyday life of some large estates (Radziwill, Gorvat, Paskevich). The mechanisms of social relationships between landowners and peasants through the prism of Christian values and charity. The author has revealed the negative impact of state coercion, as well as the gradual degradation of the paternalistic relationship is influenced by the development of capitalist forms and waves of the modernization.

***Key words:*** patrimonial paternalism; charity; modernization; social relationships; farmers; landowners; agrarian reform; social conflicts; historical sources.

З правядзеннем у жыццё маштабнай сялянскай рэформы 1861 г. грамадства зазнала істотную трансфармацыю ўсіх сацыяльных інстытутаў. Пры іх вывучэнні даследчыкі засяроджваюцца на эканамічных пытаннях і пытаннях сацыяльнай дыферэнцыяцыі і разбурэння структур і ўяўленняў традыцыйнага грамадства. Між тым толькі апошнім часам вывучэнню стала належаць з'ява вотчыннага патэрналізму, у найбольшай меры – праз прызму дабрадзейнасці землеўласнікаў-памешчыкаў (ад феадалаў да капіталістаў). Тое, што гэта ў гісторыі, асабліва пры Старым Парадку, важная частка паўсядзённасці, бачна хаця б з таго, якое месца ў гістарычных штудыях надаецца мецэнацкай дзейнасці Міхаіла-Казіміра Агінскага, Яўстафія Валовіча, Антонія Тызенгаўза, Яна Кішкі, цэлага шэрагу асоб з роду Радзівілаў, Эдварда Вайніловіча, Карла Чапскага, Рамана Скірмунта, Ірыны Паскевіч. У дадзеным артыкуле хацелася б на некалькіх прыкладах больш пільна прасачыць дынаміку ў справах дабрачыннасці асобных знатных фамілій, што валодалі буйнымі маёнткамі ў Беларусі (на Палессі), а таксама паспрабаваць даць інтэрпрэтацыю іх учынкаў і матывацыі праз сацыяльны і эканамічны кантэкст XIX ст. – эпохі вялікага пераходу.

Значныя зямельныя валоданні на Палессі належалі Радзівілам: Давыд-Гарадоцкая і Алыцкая ардынацыі, частка маёнткаў Клецкай і Нясвіжскай ардынацый (агулам, не меней за 300 тыс. га). Сярод дакументацыі Радзівілаў сустракаецца няшмат матэрыялаў (фонд 694 НГАБ у Мінску і фонд 257 ЦДІАК у Кіеве) пра хрысціянскасць у XIX ст. Так, па назіранні аўтара, больш звестак пра выдаткі на дабрачынныя мэты князёў знаходзім датычна першай паловы XIX ст., гэта значыць прыгоннага часу, і менш – датычна пазнейшага часу, больш прагматычнага і капіталістычнага. Прыклад таму – ведамасць ахвяраванняў Багуслава Радзівіла з 1848 па 1854 г., што разгледжана аўтарам і прадстаўлена ў табл. 1.

Табліца 1

**Ведамасць ахвяраванняў князя Багуслава Радзівіла**[1]

| Катэгорыя ахвяраванняў | Усяго, руб. | Штогод, руб. |
|---|---|---|
| Капітул у Мінску | 11 145 | 668,7 |
| Бернардзінцы ў Нясвіжы | 25 041,81 | 1502,5 |
| Капітул у Нясвіжы | 6000 | 360 |
| Дамініканы ў Нясвіжы | 13 304,4 | 798,26 |
| Каплан у Глуску | 1083,32 | 64,99 |
| Утрымальнікі ў Кіеве | 20 000 | 1200 |
| Патэр у Любяшове | 6750 | 405 |
| Бернардзіны ў Караліне | 3000 | 180 |
| Капітул у Алыцы | 5950 | 357 |
| Кляштар у Жытоміры | 3750 | 225 |
| Усяго | 96 024,53 | 5761,45 |

Ахвяраванні былі істотнымі і перавышалі 96 тыс. руб. Параўнаем гэту лічбу, напрыклад, з агульным даходам і выдаткамі, што былі зафіксаваны адміністрацыяй маёнткаў Нясвіжскай ардынацыі князёў Радзівілаў[2]. Паводле сведчанняў крыніц за 1840-я і ў 1850-я гг., агульная вотчынная адміністрацыя ў Нясвіжы вяла справы як у Нясвіжскай (Мінская губерня), так і ў Алыцкай (Валынская губерня) ардынацыях, а таксама ў пазаардынацкіх валоданнях князёў Радзівілаў, што пражывалі ў Берліне. Такім чынам, у 1855/56 гаспадарчым годзе налічвалася 70 231,43 руб. прыходу і 68 575,96 руб. выдаткаў адпаведна[3], або 42,5 тыс. руб. агульнага даходу ў сярэднім штогод за перыяд 1848–1854 гг.[4]

Выяўляецца, што найбольш ахвяраваў князь Багуслаў Радзівіл манастырам бернардзінаў і дамініканаў у Нясвіжы (40 %), а таксама на нейкіх «утрымальнікаў у Кіеве» (21 %). Агулам за 6 гадоў ахвяраванні складалі значную суму – 96 тыс. руб. Таксама вядома, што фундушавыя выдаткі, згаданыя вышэй, вяліся з 1829 г.: на капітул у Мінску, бернардзінам і дамініканам у Нясвіжы, каплану ў Глуску, «утрымальнікам у Кіеве»[5]. Апроч таго, згадваюцца 50 руб. ахвяраванняў Віленскаму дабрачынству за нейкі год, хутчэй у сярэдзіне 1850-х гг.[6] На жаль, у крыніцы не паказана, колькі дакладна было ахвявана ў 1829 г. Так, калі супаставіць звесткі за 1848–1854 гг., атрымаем, што штогадовая выплата складала 6 % ад паказанай агульнай сумы выдаткаў. На працягу 6 гадоў выдаткі складалі штогод 5761,45 руб., або 6 % да агульнай суммы ў 5761,45 руб. Між тым калі падсумаваць выдаткі за згаданыя гады (1848–1854 гг.), то атрымаем 61 455,83 руб., ці 64 % ад той агульнай сумы, што застаецца. З 1829 па 1848 г. налічваецца 19 гадоў. Атрымліваем выдаткаў 3234,52 руб., ці амаль удвая меншую суму для штогадовых ахвяраванняў з 1826 па 1848 г. Наколькі значныя гэта былі выдаткі, можна зразумець з таго, што чысты даход ад маёнткаў Нясвіж і Алыка ў 1850/51 гаспадарчым годзе складаў 34 649,27 руб.[7] Такім чынам, ахвяравалася 16,6 % ад усіх даходаў князя Багуслава. Той факт, што князь стала пражываў у Берліне і атрымліваў даходы пераводам у германскую сталіцу[8], дзе выдаткі на побыт мусілі быць высокімі, дазваляе ацаніць значную ступень ахвярнасці князя.

Калі ж звернемся да архіўных матэрыялаў за наступныя гады, то ўбачым рэзкае скарачэнне ахвяравальнай ініцыятывы Радзівілаў ужо на пачатку 1860-х гг. Так, знойдзена квітанцыя ад 25 студзеня 1863 г., дзе вышэйшая ў Расійскай імперыі каталіцкая духоўная кансісторыя ў Санкт-Пецярбургу прыносіла справаздачу аб атрыманні коштаў ад князёў Вільгельма і Багуслава Радзівілаў. З гэтага дакумента відаць скарачэнне выдаткаў князёў на фундаванне касцёльных інстытуцый, якімі яны апекаваліся і раней. Такім чынам, разгледзім згаданы дакумент – квітанцыю:

«Квітанцыя, № 265 IV–I. Нададзена гэтая з Рыма-каталіцкай Духоўнай калегіі галоўнаму ўпраўляючаму маёнткамі князей Вільгельма і Бугеслава Радзівілаў, тытулярнаму саветніку Маліноўскаму, у тым, што ў данясенні яго ад 16 снежня 1862 года атрымана было ў калегіі 8-га студзеня і запісана ў прыход пад № 17 тысяча шэсцьсот дваццаць рублёў трыццаць капеек. Грошы гэтыя залічаны на сплату працэнтаў наступным установам: ад сумы 5950 рублёў Алыцкай семінарыі з 1-га студзеня 1862 г. па 1-га студзеня 1863 года 357 рублёў, ад сумы 13 304 рублёў 40 капеек Нясвіжскага манастыра дамініканаў з 1-га студзеня 1862 г. па 1-га студзеня 1863 года 798 рублёў 26 капеек і ад сумы 7747 рублёў 90 капеек Нясвіжскага манастыра бенедыктынак для выплаты нядоімкі з 1-га студзеня 1862 г. па 1-га студзеня 1863 года 464 рублёў 83 капейкі і для выплаты на наступны год 4 капейкі. Для пацверджання чаго з прыкладаннем казённай пячаткі сведчыцца.

Санкт-Пецярбург, 25 студзеня 1863 года. Аншэф-прэлат Рашкевіч»[9].

З прыведзенай квітанцыі вынікае: першае – агульныя заяўленыя ахвяраванні князёў у 1860-я гг. мусілі складаць 26 002 руб., або 28 % ад сумы ахвяраванняў за 1848–1854 гг.; другое – як і раней, штогадовы ўнёсак складаў 6 %, або 1620,1 руб., аднак, трэцяе – тое было ў 3,6 разы меней, чым штогод раней

пералічвалі Радзівілы на згаданыя мэты. Таксама важна звярнуць увагу на наступнае: першае – былі нядоімкі па пералічэнні ахвяраванняў праз пасрэдніка (прэлат-аншэф па пытаннях касцёла ў Расійскай імперыі); другое – колькасць атрымальнікаў фундуша скарацілася з 10 да 3 найменняў; трэцяе – важнае значэнне як кантралёра і рэгулятара прыватнай дабрачыннасці з боку калегіі ў Санкт-Пецярбургу. У сувязі з апошнім прыкметна рэпрэсіўная лінія ўлад. Так, з крыніц вядома пра нядобразычлівае і нават варожае стаўленне расійскай адміністрацыі да князёў Радзівілаў у XIX ст. і пачатку XX ст. (затрымлівалі выдачу дакументаў служачым Радзівілаў – прускім падданым, ігнаравалі звароты князёў у суды і скаргі да вышэйшых інстанцый, затрымлівалі выплату выкупных плацяжоў па рэформе 1861 г., заахвочвалі нявыплату арэндных плацяжоў і захоп зямлі вольнымі чыншавікамі і сялянамі)[10].

Разам з тым у дакументах архіва князёў Радзівілаў з Нясвіжа за другую палову XIX ст. і пачатак XX ст. знаходзім усё менш сведчанняў дабрачыннай дзейнасці. Так, з бухгалтарскіх справаздач 1875/76 г., 1911 і 1913 гг. не відаць выдаткаў на дабрачыннасць. Пэўнае выключэнне складалі выдаткі ў межах традыцый феадальнага патэрналізму: розныя дапамогі і жалаванні зямельных участкаў за службу леснікам, гаспадарчым афіцыялістам (вотчынным чыноўнікам) і прыслузе, а таксама тыя ахвяраванні, што маглі хавацца за пазначэннем «асабістыя выдаткі» князёў у крыніцы[11]. Напрыклад, у 1875 г. была вялікая катэгорыя прыходу – «авансы і займы» ў 108 тыс. руб.[12], але пры ўважлівым разглядзе вынікае, што яны абазначалі менавіта тыя даходы, якія адмаўляліся з розных нагод сплачваць арандатары[13]. Поруч з тым нельга дакладна вызначыць кошт на дабрачыннасць і ў рахунках за наступны час (табл. 2).

Табліца 2

**Урывак з касавай кнігі Радзівілаў у Нясвіжы за 1913/14 гаспадарчы год[14]**

| Катэгорыя выдаткаў | Выдаткі | |
|---|---|---|
| | руб. | % |
| Выплаты банкам (працэнты, залогі і г. д.) | 135 044,88 | 35,7 |
| На князя Альбрэхта | 46 808,21 | 12,4 |
| Князя Караля | 6732,75 | 1,8 |
| Князя Леона | 8167,26 | 2,2 |
| Княжну Альжбету | 1200 | 0,3 |
| Княгіню Любамірскую | 5600 | 1,5 |
| Княгіню Чацьвярцінскую | 5000 | 1,3 |
| Княгіню Антаніну Радзівіл | 8000 | 2,1 |
| Пані Тышкоўскую | 600 | 0,2 |
| Утрыманне князя Юрыя ў Вене | 10 787,88 | 2,9 |
| Патрэбы князя Юрыя | 7863,4 | 2,1 |
| Выдаткі княжат | 20 042,99 | 5,3 |
| Утрыманне Замка і дворскай службы | 35 358,72 | 9,3 |
| Утрыманне апартаментаў князя Альбрэхта | 3491,05 | 0,9 |
| Утрыманне палаца і парку ў Радзівілмонтах | 4833,4 | 1,3 |
| Утрыманне парку, агароджы пры Нясвіжскім замку | 16 119,29 | 4,3 |
| Утрыманне парку ў Альбе | 3290,96 | 0,9 |
| Стайні | 14 023,19 | 3,7 |
| Базантэрыі | 6374,6 | 1,7 |
| Утрыманне замкавага возера | 223,29 | 0,1 |
| На паляванне | 10 991,1 | 2,9 |
| На архіў | 4557,74 | 1,2 |
| На сталярню | 3167,38 | 0,8 |
| Утрыманне службы ў Вінкралёўшчызне | 970,54 | 0,3 |
| Утрыманне службы ў Цімкавічах | 617,66 | 0,2 |
| Утрыманне аўтамабіляў | 2253,92 | 0,6 |
| На будаўніцтва электрастанцыі | 300 | 0,1 |
| Розныя выдаткі па гаспадарцы | 15 781,83 | 4,2 |
| Усяго | 378 202,04 | 100 |

Трэба сказаць, што традыцыі вотчыннага патэрналізму хутка разбураліся пасля скасавання прыгоннага права. Асабліва выразна гэта відаць на прыкладзе чыншавай шляхты ў засценках на землях Радзівілаў. Так, гэтыя людзі называліся шляхтай па традыцыі, але паводле ладу жыцця і рэальнага становішча ў сацыяльнай сістэме яны адпавядалі сялянам. Становішча іх пасля 1861 г. толькі пагоршылася. Так характарызаваў сітуацыю ў 1876 г. упраўляючы маёнткамі ў Нясвіжы М. Абламовіч: «Вотчынныя і ардынацкія маёнткі князя Антона Радзівіла ў Мінскай губерні складаюцца па большай частцы з дробных участкаў ад 15 да 30 дзесяцін, што называюцца засценкамі. Здаўна тое паасядалі на зямлю рознага звання людзі на правах арандатараў, што называюць сябе шляхтай <…> нядоімкі дасягнулі да 80 000 рублёў, якія без садзейнічання міравога пасрэдніка цяжка будзе ўзыскаць <…> Міравыя суддзі не прымаюць такога роду справы для разбору на той падставе, што ў агульных судовых інстанцыях заведзены былі гэтымі арандатарамі іскі аб праве валодання і што быццам бы з тае нагоды да рашэння спраў па гэтыхісках яны не могуць вырашаць справы пра нядоімкі»[15]. Прычына ў тым, што чыншавікі трымалі землі на ўмовах спадчыннай арэнды з платай паводле звычаю, а не ў адпаведнасці з эканамічнымі абставінамі. Пасля скасавання прыгону кошты на зямлю хутка выраслі і чыншавая шляхта (ва ўмовах феадалізму – служылая дробная шляхта на паслугу землеўласніку) сталася са сваім звычаёвым правам на зямлю перашкодай для павелічэння даходаў землеўласніка. Вылілася гэта ў працяглыя супярэчнасці: землеўласнік павышаў арэндную плату, а чыншавікі ігнаравалі патрабаванні і заяўлялі свае правы на зямлю. Як сведчаць дакументы, пытанне гэта заставалася складаным пры актыўным і негатыўным умяшальніцтве дзяржаўных устаноў[16].

Важна зазначыць, што, нягледзячы на канфлікт з-за зямлі, які вынікае з парушэння традыцыйнага вотчыннага ладу ў маёнтках Радзівілаў, феномен феадальнага патэрналізму захоўваўся ў свядомасці як сялян, так і чыншавай шляхты, апроч таго, у свядомасці саміх землеўласнікаў, колішніх феадалаў. Напрыклад, у ліпені 1912 г. мешчанін мястэчка Грэск Меер Стэльмах прасіў у князя Радзівіла дрэва, бо яго жытло згарэла ад пажару[17]; селянін і лясны стражнік у Лактышах Кандраці Жданіш у тым жа годзе прасіў дапамогі з-за неўраджаю на яго зямельным участку[18]; чыншавая шляхта прасіла аб спадчыннай арэндзе зямель, але не па дамовах на 12 гадоў, як тое прапаноўвала гаспадарчае ўпраўленне князя[19]; служачыя вотчыннага ўпраўлення князя не мелі жытла і прасілі землеўласніка аб забеспячэнні іх жытлом[20]; таксама былі пашыраны звароты аб замене зямель, каб ліквідаваць цераспалосіцу, просьбы аб дробных грашовых выплатах, дапамозе дрэвам і зернем, аб карыстанні сенакосамі на зручных умовах, аб дапамозе пацярпелым ад розных нягод, аб розных пазыках. Вядома, што ў чэрвені 1911 г. Радзівілы давалі земству дрэва для будаўніцтва маста на р. Нёман каля мястэчка Свержань[21]. Нягледзячы на прыведзеныя прыклады, мяркуем: маштабы так званага вотчыннага патэрналізму ў новых капіталістычных абставінах істотна скараціліся. Варта зазначыць і тое, што традыцыя патэрналізму трымалася пераважна не на інерцыі ў свядомасці былых феадалаў, але сялян і служылай шляхты, як тое бачна з крыніц.

Гэта было своеасаблівае хістанне паміж звычаем і рацыянальным разуменнем сітуацыі, калі кожны стаў гаспадаром сваёй зямлі і ўласнасці і мусіў сам адказваць за вядзенне спраў і будучыню. Аднак, з нашага пункту гледжання, рэшткі вотчыннага патэрналізму цяжка аднесці да ўласна дабрачыннасці. Чаму? Напрыклад, падобныя звесткі знаходзім датычна іншых маёнткаў, але бачым іх спарадычнасць і нешматлікасць. Справа ў тым, што вывучаныя дакументы не дазваляюць нам казаць аб вотчыннай дабрачыннасці як сістэмнай з'яве пасля скасавання прыгону.

Для прыкладу возьмем маёнткі Горватаў у Мінскай губерні. Так, вядома, што ў 1853 г. у Мазырскім і Рэчыцкім паветах быў неўраджай і Даніл Ігнатавіч Горват надаў 380 сялянскім дварам, або рэвізскім душам з 12 вёсак (Вішэнкі, Багушэвічы, Шарэшня, Добрынь, Дзянісаўка і інш.) і мястэчка Нароўля, дапамогу зернем, пра што сведчаць два спісы, складзеныя ў красавіку 1854 г. Намі былі апрацаваны дадзеныя спісы і прадстаўлены ў табл. 3.

Табліца 3

**Выдаткі Даніла Горвата на дапамогу сялянам**[22]

| Вёска, мястэчка | Рэвізскія душы | Збожжа, чвэрцяў | |
|---|---|---|---|
| | | жыта | авёс |
| Каралін | 33 | 78 | 58 |
| Вішэнкі | 21 | 125 | 88 |
| Багушэвічы | 29 | 200 | 142 |
| Шарэшня | 33 | 279 | 146 |
| Добрынь | 33 | 355 | 246 |
| Дзянісаўка | 20 | 418 | 289 |
| Нароўля (мястэчка) | 37 | 56 | 24 |
| Кнуроўка | 56 | 170 | 78 |

Заканчэнне табл. 3

| Вёска, мястэчка | Рэвізскія душы | Збожжа, чвэрцяў | |
|---|---|---|---|
| | | жыта | авёс |
| Карповічы | 26 | 208 | 95 |
| Вялемічэ | 18 | 202 | 103 |
| Гамарня | 15 | 256 | 114 |
| Кажушкі | 49 | 352 | 169 |
| Ламачы | 10 | 368 | 177 |
| Усяго | 380 | 3067 | 1729 |

Звяртаючыся да прыведзенай табліцы, улічым, што чвэрць утрымлівала 8 пудоў (1 пуд – 16,38 кг), і выдаткоўваем дапамогу сялянам у 402 т жыта і 226,5 т аўса. Між тым заўважана, што панская дапамога размяркоўвалася няроўна – відаць, тое было звязана з нераўнамернасцю шкоды ад неўраджаю, а таксама з памерамі сялянскіх сем'яў. Назіралася таксама, што ўдовы атрымлівалі дапамогу ў сярэднім на 1/3 большую. Цікава, што 1 чвэрць аўса тады каштавала ў Мінскай губерні 3,2 руб., а жыта – 6,9 руб.[23] Такім чынам, выдаткі Горвата на дапамогу сялянам можна ацаніць у 26 695,1 руб. Гэта была вялікая сума: напрыклад, у 1854 г. з 4 фальваркаў (Прыборск, Русак, Даманаўка, Сукач) на Кіеўшчыне Даніл Горват мог атрымаць толькі 1227,15 руб. даходу (1,4 руб. з рэвізскай душы ў сярэднім), прычым фактычна атрымаць змог толькі 909 руб., або 74 %[24]. Апроч таго, напрыклад, за 1856 г. пазначана ў крыніцы 4505,46 руб. агульнага даходу ў Данілы Горвата, што паказвае істотныя маштабы неўраджаю 1854 г.[25]

Звесткі аб дапамозе сялянам у 1854 г. знаходзім не ў прыватным архіўным фондзе Горватаў, а ў зборы мінскага губернатара. Тое можа ўказваць на ціск з боку дзяржавы на землеўласніка: расійскае імперскае заканадаўства змушала памешчыкаў апекавацца сялянамі[26]. У доказ таму знаходзім звесткі пра вылучэнне грошай Горватамі ў 1853–1855 гг., як і іншымі мясцовымі памешчыкамі, на рамонт і ўтрыманне праваслаўных цэркваў у Жарах, Белавушы, Цешкава, Дзямідавічах, Нароўлі, Каржаневічах, Еўтушкевічах па патрабаванні дзяржавы[27]. Між тым калі Горваты спрабавалі ашчаджаць сродкі для падтрымкі свайго веравызнання – каталіцкага, то сустракаліся з відавочным супраціўленнем дзяржаўных устаноў. Напрыклад, у 1840-я гг. пры спробе пабудаваць капліцы ў Барбарава і Коржані Горваты сустракаліся з моцным процідзеяннем мясцовых чыноўнікаў, са штрафамі, судовымі выдаткамі і рознымі грашовымі паборамі[28]. Як вынік, у 1857 г. Горваты мелі запазычанасць у 68 960 руб., за што акцызнае ўпраўленне ў Кіеве забрала ў іх 400 дзесяцін дубовага лесу[29].

Вядома, што сын Данілы Горвата Артур, уласнік маёнтка Нароўля, займаўся ў сярэдзіне XIX ст. перспектыўнай гаспадаркай – адкормам валоў, якіх набываў цялятамі на Украіне, а таксама меў значныя статкі авечак[30]. Пазней (1860-я гг.), як вынік абмежавальнай і дыскрымінацыйнай палітыкі дзяржавы датычна «польскіх» землеўласнікаў, ён панёс катастрафічныя страты ў сваім жывёлагадоўчым бізнесе[31]. У выніку Горваты ў 1870-я гг. перажывалі істотныя фінансавыя цяжкасці: Артур Горват не мог сплаціць па векселю мазырскаму купцу Моўшу Аляксандраву 725 руб. і на частку яго маёмасці быў накладзены арышт; у 1868 г. Даніл Горват быў вінны 1653,51 руб. падаткаў дзяржаве і больш істотныя сумы запазычанасці прыватным асобам, што спаганяліся з яго праз павятовы суд у Радамыслі[32].

Адначасна абвастраліся адносіны з сялянамі: памешчык не падпісваў выкупныя акты з сялянамі в. Вачоўка, і тыя былі ўведзены праз суд у верасні 1867 г.; у верасні 1876 г. нехта наўмысна спаліў хлебны свіран Горвата ў маёнтку Кажушкі; сяляне злоўжывалі сервітутным правам і праз тое вельмі спустошылі і засмецілі лясы, шырока ўжывалі адвольныя парубкі і патравы выпасам жывёлы ў лясах[33]. Асабліва абвастрылася сітуацыя ў 1911 г.: за год зафіксавана 180 выпадкаў парушэння ўласнасці Горвата пры ўдзеле да 200 чал. (у Нароўлі тады жыло крыху больш за 1200 чал.), у 1912 г. – ужо 212 парушэнняў пры ўдзеле 240 чал.[34] Прычым нельга сказаць, што праз суды і закон землеўласнік мог утаймаваць сялян. Так, зімой 1899/1900 гаспадарчага года Артур Горват наняў 26 сялян в. Арэвічы на нарыхтоўку дроў, пры гэтым сяляне мусілі вярнуць неадпрацаваную частку грошай у 145 руб. (розніца у 5 руб. за кубічны сажань). 12 сялян адмовіліся вяртаць задатак. Затым да іх далучыліся яшчэ 18 сялян з падобнымі абавязкамі, што агульна адмовіліся вяртаць выплачаныя ім 200 руб. за нявыкананую па найме працу[35]. Не знойдзена сведчанняў таму, што памешчык змог вярнуць свае грошы.

Між тым адзначым, што дакументы фіксавалі выпадкі інерцыі вотчыннага патэрналізму ў свядомасці менавіта сялян і мяшчан, што адсылае да сацыяльных стасункаў у ранейшы час. Яркі прыклад таму – выпадак з Пракопам Дарашэвічам у 1897–1905 гг.

«Зварот Дарашэвіча да ўпраўляючага маёнтка Нароўля Ляневіча (*у 1897 г. мазырскі мешчанін Пракоп Іванавіч Дарашэвіч праштрафіўся на 56,7 руб. і доўгі час не мог сплаціць віну. – В. К.*). Прашу прыняць да ўвагі мой заробак у маёнтку ў 34 руб. на рахунак даведзенага мне штрафа <…> І калі не залічана (яшчэ), то прашу залічыць у гэты штраф, а рэшту дараваць мне так, бо я апынуўся у скрайняй беднасці: маю аднога каня і таго скралі, і я болей нічога не маю, толькі адную пару быкоў. І калі пан не будзе літасцівы, то валаснае праўленне прадасць маіх быкоў, і я не здолею пракарміцца

са сваім сямействам. З улікам гэтага маю гонар пакорна прасіць Ваша Высакароддзе пана Ляневіча па маёй беднасці і безвыходнасці становішча, прашу вынесці распараджэнне ў сілу маіх абставінаў. 16 кастрычніка 1905 г.»[36].

Разам з тым калі звярнуцца да іншых дакументаў архіўнага фонду НГАБ у Мінску Горватаў і губернскай канцылярыі, то аўтарам не знойдзена іншых доказаў, апроч прыведзенага вышэй, таго, што Горваты традыцыі вотчыннага патэрналізму ў часы капіталізму працягвалі.

Канешне, новыя часы пасля скасавання прыгону вымагалі іншага стаўлення да зямельнай і іншай уласнасці ў масах насельніцтва – не толькі памешчыкаў, але і сялян, і мяшчан. Нарастала сацыяльная канфліктнасць і маёмасная няроўнасць, што ва ўмовах росту значэння прыватнай уласнасці было непазбежна. Праз гэта, напрыклад, сучасны расійскі філосаф С. Г. Кара-Мурза адмаўляе капіталізм і спрабуе патлумачыць савецкі лад XX ст. як натуральную рэакцыю «развітой сялянскай цывілізацыі» ў Расіі[37]. Між тым няма сумневу, што апошняе – велізарнае перабольшванне, бо, напрыклад, для амаль усіх сучаснікаў (аграномаў, земскіх дзеячаў, звычайных чыноўнікаў, падарожнікаў, даследчыкаў, памешчыкаў і іх эканомаў, пісьменных сялян) сялянская гаспадарка таго часу была пераважна дробнай і адсталай. Падобнай жа заставалася сітуацыя і ў часы нэпа[38].

Выключэннем, што больш выразна акрэслівае правіла, былі нямецкія, латышскія і чэшскія каланісты на Палессі ў апошняй трэці XIX – пачатку XX ст. Цікава, што пераважна яны належалі да пратэстанцкіх кірункаў, чым адрозніваліся ад масы мясцовых жыхароў – праваслаўных (сяляне) і католікаў (дваране). Так, сярод буйных землеўласнікаў было няшмат лютэранаў: П. Л. Вітгенштэйн і М. Л. Гогенлоэ, род дэ Бехлей і купец з Рыгі Карл-Генрых Шэпелер у Мазырскім павеце, купец Карл Шленкорн, дваранкі Ганне Вернэке і Вера Гільдэрбрант у Пінскім павеце, Флор Штарк і бароны Артур Манергейм і Канстанцін Корф – у Брэсцкім. Калі пра памешчыкаў-пратэстантаў нярэдка нічога большага апроч запісаў у спісах землеўласнікаў не засталося, то больш шырока крыніцы асвятляюць лёс пэўных асяродкаў каланістаў-сялян. У лёсе гэтых каланістаў прыкметна агульная рыса: яны прыязджалі ў край па запрашэнні мясцовых памешчыкаў і амаль без усялякай маёмасці, атрымлівалі ў арэнду лясныя і балоцістыя ўчасткі і ўжо праз 10–15 гадоў на гэтых землях былі добрыя палеткі і гаспадаркі, лепшыя за тыя, што былі ў мясцовых сялян-старажылаў[39]. Аўтарамі (Карл Шкільтэр, У. В. Тугай, В. П. Пічукоў, Н. М. Філюта) адзначалася, што такі стан рэчаў вынікаў з большай культурнасці (адукаванасці), разважлівасці і працавітасці каланістаў-пратэстантаў, іх моцнай унутрыгрупавой салідарнасці.

Нямала сярод буйных землеўласнікаў пасля 1861–1865 гг. было ў краі дваран і купцоў праваслаўных. Але не аб многіх з іх захаваліся звесткі як аб дабрачынцах. Канешне, нейкая інерцыя вотчыннага патэрналізму магла закранаць многіх, але прыкладам шырокай прыватнай дабрачыннай дзейнасці засталася хіба што княгіня Ірына Іванаўна Паскевіч.

Княгіня Ірына Паскевіч (1835–1925) паходзіла з роду Варанцовых-Дашкавых і пабралася шлюбам у 1853 г. з Фёдарам Паскевічам, спадкаемцам багатай Гомельскай вотчыны. У 1880 г. Паскевічы пераехалі ў Гомель з Пецярбурга, і тут адарваная ад свецкага жыцця княгіня пачала ўцягвацца ў дабрачынную дзейнасць. Асабліва шырокі характар набыла гэта дзейнасць пасля смерці князя (16.06.1903) і атрымання ў спадчыну маёмасці княгіняй (жнівень 1903 г.). Прыкладам таму з’яўляецца роспіс асабістых выдаткаў княгіні са справаздачы Гомельскага замка за 1913/14 гаспадарчы год (табл. 4).

Табліца 4

**Асабістыя выдаткі княгіні Ірыны Паскевіч[40]**

| Катэгорыя выдаткаў | Выдаткі | |
|---|---|---|
| | руб. | % |
| Асабістыя сродкі княгіні | 1600 | 2,8 |
| Выдаткі на дарогу | 1341,25 | 2,3 |
| Богаслужэнне ў Замку 16 чэрвеня | 50 | 0,1 |
| Жалаванне пані Жукоўскай | 300 | 0,5 |
| Утрыманне стала, уключана жалаванне повару пану Дзерлінку і кухоннай прыслузе | 4772,55 | 8,2 |
| Выдаткі па буфеце | 8678,8 | 14,9 |
| Выдаткі пральні | 9009,21 | 15,5 |
| Паштовыя і тэлеграфныя выдаткі | 163,9 | 0,3 |
| Музыка і ілюмінацыя | 300 | 0,5 |
| Петраградская прыслуга (пакаёўка, 2 лакеі, памочніца Епанчова, кухонная прыслуга) | 2033,93 | 3,5 |
| Паляванне, Каранёўскі паляўнічы дом | 459,41 | 0,8 |
| Стыпендыі 8 стыпендыятам і 9 стыпендыяткам Гомельскай гімназіі | 1020 | 1,8 |

Заканчэнне табл. 4

| Катэгорыя выдаткаў | Выдаткі | |
|---|---|---|
| | руб. | % |
| Утрыманне школ у Прыборску, Заліп'і, Давыдаўцы, Студзёнай Гуце, Папоўцы | 2340 | 4,0 |
| Выдаткі на рамонт школ | 61,82 | 0,1 |
| На вучэбныя дапаможнікі | 113,46 | 0,2 |
| На дровы для 9 вясковых школ | 145 | 0,2 |
| Жалаванне настаўніцы Добрушскай школы | 84 | 0,1 |
| На дзіцячую летнюю калонію пры фальварку Хамінскі | 427,33 | 0,7 |
| Пабудова дома для згаданай летняй калоніі для дзяцей | 3703,18 | 6,4 |
| Ахвяраванні Магілёўскаму аддзелу Усерасійскай лігі для барацьбы з туберкулёзам | 1000 | 1,7 |
| Выдаткі Гомельскаму таварыству патранату для калоніі малалетніх злачынцаў | 13 000 | 22,3 |
| Пенсіі старым бабулям, аднаразовыя дапамогі ўдовам | 1925,47 | 3,3 |
| Велікодныя раздачы міластыні | 117 | 0,2 |
| Падараванне дроў бедным | 2062 | 3,5 |
| *У тым ліку ўсе выдаткі дабрачыннасці бедным* | *23 295,97* | *40,0* |
| *Усяго пралічваецца на справы дабрачыннасці* | *49 295,23* | *84,7* |
| На рамонт і ўтрыманне Гомельскага замка | 16 641,3 | 28,6 |
| На жалаванне замкавай прыслузе | 5149,15 | 8,9 |
| На ўтрыманне замкавай аранжарэі | 12 316,93 | 21,2 |
| Усяго | 58 167,32 | 100,0 |

Звяртаючыся да рахункаў дадзенага роспісу выдаткаў княгіні Паскевіч, звернем увагу на тое, што асабістыя выдаткі яе ў 14,5 разы саступалі выдаткам на справы дабрачыннасці, Так, асабліва шмат выдаткоўвалася на патрэбы малалетніх злачынцаў і мясцовай адукацыі. Разам з тым са слоў відавочцаў вядома, што княгіня Ірына Іванаўна вяла вельмі сціплы вобраз жыцця, які па сведчанні сучаснікаў быў «амаль манаскі»[41].

Між тым дакументы паказваюць, што княгіня не мела кантролю над вотчыннай адміністрацыяй яе маёнткаў, і сярод служачых квітнела шырокая карупцыя. Так, нават выдаткі ў прапанаваным роспісе Гомельскага замка пры пераліку амаль у 2 разы перавышаюць тыя лічбы, што намінальна заяўлены ў дакуменце (табл. 4): 58 167,32 руб. і 112 111,66 руб. Асабліва выразна гэта паўстала пры рэвізіі губернскім праўленнем спагнання падаткаў з Гомельскай вотчыны ў 1905 г. і Сенатам у 1909 г.[42] Ёсць падставы меркаваць, што да паловы чыстага прыбытку вотчыны раскрадалася яе служачымі, разам з тым гэта не перашкаджала гаспадарцы расці і павялічваць даходы за кошт лясной гаспадаркі і прамысловага прадпрымальніцтва[43]. Цікава таксама тое, што і княгіня, і адміністрацыя яе вотчыны працягвалі традыцыі вотчыннага патэрналізму. Так, вядомы шэраг дамоваў княгіні з вясковымі грамадамі (вёскі Давыдаўка, Случ-Мільча, Макееўка і інш.) аб перадачы ім за танны кошт і часам нават без акрэслення межаў арандаваных угоддзяў – сенакосаў і паш – пры ўмове збераження ўгоддзяў і лясоў ад пажараў і іншых шкод[44]. Між тым ні ў 1905 г., ні асабліва з кастрычніка 1914 г. гэта не дапамагло спыніць лавіны з тысяч выпадкаў спрычынення шкоды і захопу ўласнасці княгіні сялянамі[45].

Прыведзеныя прыклады гавораць аб пэўнай хрысціянскасці ў паўсядзённасці ўласнікаў маёнткаў на Палессі ў XIX – пачатку XX ст. Аб ёй мы збольшага можам гаварыць знешне як аб дабрадзейнасці. Заўважана, што ў новых умовах пасля скасавання прыгону ў 1861–1863 гг. хутка адміралі традыцыі вотчыннага патэрналізму. Дзяржава ў Расіі спрабавала замарозіць і навязаць вотчынны патэрналізм у прыватнай сферы і пасля 1861 г. Аднак прыклад Радзівілаў і Горватаў відавочна паказвае на хібы такой сістэмы: празмерная справаздачнасць, залежнасць ад чыноўнікаў у праявах сваёй добрай волі мела вынікам страту інтарэсу да справы і ініцыятывы. Традыцыйны патэрналізм у новых умовах дэградаваў і губляў сэнс у канкурэнтнай барацьбе за эканамічна мэтазгодныя рабочыя рукі. Вядома, у імперыі падтрымлівалася інерцыя колішняй сацыяльнай сістэмы, што ў большай ступені (сервітуты, асобны статус землеўласнасці сялянскіх грамад да 1906 г., абяцанні чыноўнікаў) адбівалася ў свядомасці сялянства. Між тым дабрачыннасць колішніх феадалаў-землеўласнікаў скарачалася, як і іх значэнне ў грамадстве. У новых абставінах на першае месца мусілі выйсці ініцыятывы буржуазных колаў, дабрачыннасць прадпрымальнікаў.

Можна сцвярджаць, што значэнне інстытутаў колішняга грамадства заставалася істотным на агульным сацыяльным фоне, бо вясковае асяроддзе па-ранейшаму дамінавала ў Беларусі на Палессі. Іншая справа, што дабрачыннасць новай эпохі станавілася ў пэўным сэнсе больш шчырай: сялянскія грамады і асобныя сяляне ў большай ступені мусілі клапаціцца пра сябе самастойна, а памешчыкі змушаны былі займацца ў першую чаргу сваёй гаспадаркай і справамі. Тым болей, што ва ўмовах заходніх губерняў існаваў абмежавальны рэжым для мясцовага дваранства, які кіраваў яго гуртавацца вакол ідэй падтрымкі свайго асяродка і нацыянальнага захавання і адраджэння. Істотнай якасцю гэтай мясцовай дваранскай рэфлексіі была больш шчыльная прывязка спраў дабрачыннасці да прыватнай ініцыятывы. Таксама і прыклад сялян-каланістаў – пратэстантаў (немцы, латышы, чэхі) – паказвае, што менавіта ўзровень самасвядомасці, апора на ўласныя сілы (адказнасць па-за межамі традыцый вотчыннага патэрналізму), згуртаванасць і маральнасць вялі да поспеху ў справах.

Як вядома, XIX ст. прынесла ў пачатку XX ст. востры сацыяльны крызіс, што праявіўся ў межах Расійскай тагачаснай імперыі як, перадусім, крызіс аграрнага грамадства: адносная перанаселенасць вёскі, нізкі ўзровень даходаў і гаспадаркі, вялізны попыт на зямлю і абвостраная міжсаслоўная барацьба за сельскагаспадарчыя ўгоддзі, дэградацыя традыцыйных сацыяльных інстытутаў (вясковая абшчына, традыцыйная вялікая сялянская сям'я, мірская апека, вотчынны патэрналізм). Наогул, пры капіталізме (свабодным рынку) абвастраецца барацьба за ўсе рэсурсы. Затое расце каштоўнасць гэтых рэсурсаў – непазбежна стаіць пытанне аб іх эфектыўным выкарыстанні. Інакш было пры тым ладзе, дзе доступ да рэсурсаў больш замкнуты: змяншаецца каштоўнасць рэсурсаў і эфектыўнасць іх выкарыстання. Давядзём яшчэ і тую акалічнасць, што назіралі на прыкладзе Гомельскай вотчыны: заглыбленасць на сацыяльным не дазволіла перамагчы карэнныя праблемы эпохі ў межах валоданняў Паскевіч, а гэта значыць – пераадолець адсталасць і крызіс сялянскай гаспадаркі.

БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС

[1] Гл.: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску (далей – НГАБ). Ф. 694. Воп. 7. Спр. 383. Арк. 182 адв.

[2] Гл.: Administracja Dóbr Ordynacji Nieświeźskiej JOO. Książat Wilhelma i Bogusława Radziwiłłow ; zamek Nieświeźski – тытул установы ў архіўных фондах.

[3] Гл.: НГАБ. Ф. 694. Воп. 3. Спр. 660. Арк. 30.

[4] Гл.: НГАБ. Ф. 694. Воп. 7. Спр. 383. Арк. 3 адв., 211 адв. – 217.

[5] Там жа. Арк. 182.

[6] Там жа. Арк. 211 адв.

[7] Там жа. Арк. 214.

[8] Там жа. Арк. 182.

[9] НГАБ. Ф. 694. Воп. 3. Спр. 804. Арк. 27–30 ; Ф. 694. Воп. 3. Спр. 803. Арк. 41.

[10] Гл.: НГАБ. Ф. 694. Воп. 3. Спр. 803. Арк. 45–46 адв., 201–201 адв., 214 адв. – 215 адв., 234–249, 260.

[11] Гл.: НГАБ. Ф. 694. Воп. 2. Спр. 10387. Арк. 342–342 адв. ; Ф. 694. Воп. 2. Спр. 10655. Арк. 1–14 ; Ф. 694. Воп. 2. Спр. 10666. Арк. 1 адв. – 16.

[12] Гл.: НГАБ. Ф. 694. Воп. 2. Спр. 10387. Арк. 341 адв.

[13] Гл.: НГАБ. Ф. 694. Воп. 2. Спр. 10666. Арк. 14 адв. – 16.

[14] Там жа. Арк. 14 адв. – 16.

[15] Там жа. Арк. 58 адв.

[16] Гл.: НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 393 ; Ф. 694. Воп. 1. Спр. 399.

[17] Гл.: НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 399. Арк. 55–55 адв.

[18] Там жа. Арк. 16.

[19] Там жа. Арк. 4–35.

[20] Гл.: НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 400. Арк. 7.

[21] Гл.: НГАБ. Ф. 694. Воп. 3. Спр. 804. Арк. 48.

[22] Гл.: НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Спр. 1276. Арк. 9 адв. – 37 ; Ф. 295. Воп. 1. Спр. 1277. Арк. 3–35.

[23] Гл.: НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Спр. 1279. Арк. 63.

[24] Гл. НГАБ. Ф. 986. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 24, 26–31.

[25] Гл. НГАБ. Ф. 986. Воп. 1. Спр. 16. Арк. 3–7 адв.

[26] Гл.: Рянский Р. Л. Помещичье хозяйство Курской губернии перед отменой крепостного права: К проблеме кризиса крепостничества в России : дис. ... канд. ист. наук : 07.00.02. Курск, 2006. С. 49.

[27] Гл.: НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Спр. 1267. Арк. 1–4 адв. ; Ф. 986. Воп. 1. Спр. 7. Арк. 7–8 адв.

[28] Гл.: НГАБ. Ф. 299. Воп. 5. Спр. 184 ; Ф. 299. Воп. 5. Спр. 185.

[29] Гл.: НГАБ. Ф. 986. Воп. 1. Спр. 20. Арк. 14.

[30] Гл.: Понютич В. П. Социально-экономическое развитие белорусской деревни в 1861–1900 гг. Минск, 1990. С. 253 ; Бейлькин Х. Ю. Сельскохозяйственный рынок Белоруссии. 1861–1914 гг. Минск, 1989. С. 74.

[31] Гл.: Жытко А. П. Дваранства Беларусі перыяду капіталізму, 1861–1914 гг. Мінск, 2003. С. 113, 116.

[32] Гл.: НГАБ. Ф. 986. Воп. 1. Спр. 20. Арк. 14–14 адв. ; Ф. 986. Воп. 1. Спр. 47. Арк. 12–13 адв.

[33] Гл.: НГАБ. Ф. 299. Воп. 5. Спр. 184. Арк. 13 адв. ; Ф. 986. Воп. 1. Спр. 7. Арк. 9 ; Ф. 986. Воп. 1. Спр. 29. Арк. 19–23 адв.

[34] Гл.: Кахновіч В. А. Гаспадаранне ў маёнтках Палескага рэгіёна Расійскай імперыі ў 1861–1917 гг. : дыс. … канд. гіст. навук : 07.00.03. Мінск, 2010.

[35] Гл.: НГАБ. Ф. 986. Воп. 1. Спр. 8. Арк. 6–11 адв.

[36] Там жа. Арк. 2–2 адв.

[37] Гл.: Кара-Мурза С. Г. Столыпин – отец русской революции. М., 2002. С. 41, 71.

[38] Гл.: Кочетов И. В. Зерновое производство в годы НЭПа: действительность и возможности // Экономическая история России XIX–XX вв.: современный взгляд. М., 2000. С. 80–104.

[39] Гл.: Тугай У. В. Латышы на Беларусі. Мінск, 1999. С. 70, 72, 76 ; Малые диаспоры Гомельщины в 20–30-е гг. XX века : аналит. материалы и документы Гос. арх. Гомел. обл. Гомель, 2008. С. 68.

[40] Гл.: НГАБ. Ф. 3013. Воп. 1. Спр. 2415. Арк. 2–28.

[41] Гл.: Пиховкина Т. А. Графиня Ирина Ивановна Паскевич-Эриванская… Гомель, 2002. С. 25.
[42] Гл.: НГАБ. Ф. 3013. Воп. 1. Спр. 2041. Арк. 10–57 адв.
[43] Гл.: Кахновіч В. А. Гаспадаранне ў маёнтках Палескага рэгіёна Расійскай імперыі ў 1861–1917 гг. …
[44] Гл.: НГАБ. Ф. 3013. Воп. 1. Спр. 1894. Арк. 47–58.
[45] Гл.: Кахновіч В. А. Гаспадаранне ў маёнтках Палескага рэгіёна Расійскай імперыі ў 1861–1917 гг. …

Пастуліў у рэдакцыю 08.09.2014.

***Віктар Адамавіч Кахновіч*** – кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры гісторыі Расіі.

*УДК 94(476.1-89)«18»+323.311(476.1-89)(091)«18»*

*Я. В. УЛАСАВЕЦ*

## ГРАМАДСКАЯ АКТЫЎНАСЦЬ ДВАРАНСТВА МІНСКАЙ ГУБЕРНІ Ў СЯРЭДЗІНЕ XIX ст.

Рассматривается общественно-политическая деятельность дворянства Минской губернии в середине XIX в., направленная на отмену ограничительных законов, введенных в белорусских губерниях после подавления восстания 1830–1831 гг. Анализируются проекты реформ, разработанные в 1856 г. мозырским и борисовским уездными предводителями дворянства в соответствии с нуждами населения. Определяется степень сходства данных документов с проектами других белорусских губерний. Исследуется их влияние на политику российского правительства в крае.

***Ключевые слова:*** предводители дворянства; реформы; самоуправление.

The article deals with the socio-political activities of the nobility of the Minsk province in the middle of the XIX century, which was aimed to the abolition of restrictive laws introduced in Belarusian provinces after the uprising of 1830–1831. The reform projects are analyzed, which were developed in 1856 by District (Uyezd) Marshals of the Nobility of Mozyr and Borisov districts, in accordance with the needs of the population of the province. The article defines the degree of similarity of these documents with the projects of other Belarusian provinces. Their influence on the policies of the Russian government in the region has also been studied.

***Key words:*** Marshals of the Nobility; reform; local government.

Гісторыя беларускага набілітэта даволі добра разгледжана ў айчыннай гістарыяграфіі, у тым ліку і пытанні, звязаныя з удзелам вышэйшага саслоўя ў развіцці грамадскай думкі[1]. Аднак дагэтуль існуюць некаторыя аспекты, на якія даследчыкі не звярталі сваёй увагі. Адным з іх з'яўляецца грамадска-палітычная дзейнасць дваранства асобных беларускіх губерняў у пачатку праўлення імператара Аляксандра II. Між тым наяўнасць у архівах раней неапублікаваных крыніц дазваляе даследаваць акрэсленую праблему, што і было зроблена ў дадзеным артыкуле на прыкладзе Мінскай губерні.

Дыскрымінацыйная палітыка ў дачыненні дваранства каталіцкага веравызнання, распачатая ў беларускіх і літоўскіх губернях пасля падаўлення паўстання 1830–1831 гг., значна абмяжоўвала яго правы і наносіла моцны ўдар па традыцыйнаму ладу жыцця, які існаваў на прасторы былой Рэчы Паспалітай стагоддзямі. Было відавочна, што сістэма, створаная ў час праўлення імператара Мікалая I, не адпавядала патрабаванням часу, бо перашкаджала мясцоваму насельніцтву паўнавартасна ўдзельнічаць у жыцці краю, што стрымлівала яго натуральнае развіццё. Таму ўзыходжанне на трон імператара Аляксандра II мясцовае грамадства ўспрыняло з энтузіязмам. Дабівацца змен ва ўрадавым курсе планавалася пры дапамозе легальных сродкаў – праз дзейнасць дваранскіх сходаў і абраных прадвадзіцеляў дваранства, якія павінны былі інфармаваць цэнтральную ўладу аб патрэбах мясцовага дваранства пры дапамозе запісак, хадайніцтваў і адрасоў[2].

Практыка падачы адрасоў існавала і раней, але яны былі ініцыіраваны з боку прадстаўнікоў царскай адміністрацыі і ўтрымлівалі ў сабе завярэнні ў лаяльнасці. З сярэдзіны 1850-х гг. сітуацыя кардынальна змяняецца. Адрасы пачалі адлюстроўваць рэальныя мары дваранства дзевяці заходніх губерняў. Адпаведна мяняецца і стаўленне да гэтых петыцый з боку мясцовых і цэнтральных улад.

Хваля падачы адрасоў пачалася хутка пасля ўзыходжання на трон Аляксандра II. Так, ужо ў лістападзе 1855 г. віцебская шляхта праз губернскага прадвадзіцеля дваранства звярталася да цара з просьбай унесці змены ў дыскрымінацыйную палітыку замяшчэння пасад у краі пераважна выхадцамі з унутраных губерняў, на што было адказана адмовай, матываванай адсутнасцю істотных довадаў для якіх-небудзь змен[3].

На мяжы 1855 і 1856 гг. адбылася масавая падача адрасоў ад усіх заходніх губерняў Расійскай імперыі. У гэтых адрасах выражалася спадзяванне, што Аляксандр II адновіць хаця б частку праў, адабраных падчас панавання яго бацькі. Першымі падалі адрас памешчыкі Віленскай губерні на чале з губернскім прадвадзіцелем дваранства А. Дамейкам. У ім дваране патрабавалі дазволу: 1) рамантаваць старыя і будаваць новыя касцёлы з утварэннем пры іх парафій; 2) выкладаць у школах на польскай мове; 3) адкрыць у Полацку ці якім-небудзь месцы Віленскай губерні ўніверсітэт. Адрас быў перададзены ў Пецярбург праз віленскага генерал-губернатара Д. Бібікава, які за гэта атрымаў дакор з боку цэнтральнай улады, а сам адрас не быў прыняты расійскім царом і быў вернуты назад з пісьмовым уведамленнем, што імператар, ведаючы яго змест, аддаў загад адасласць яго з выражэннем свайго незадаволення[4].

Дваране іншых губерняў узялі гэты адрас за ўзор. Так, у студзені 1856 г. віцебскі губернскі сход прыняў пастанову аб падачы на імя цара адраса, у якім дамагаўся: 1) адкрыцця ў Полацку або якім-небудзь іншым прыдатным месцы Віцебскай губерні ўніверсітэта; 2) дазволу на пабудову і рамонт